стера, готового в любой момент по вашему желанию вычеканить монету.

На протяжении всего праздника, на одной из площадок, проводился мастер-класс по приготовлению блюд национальной кухни страны-участницы фестиваля – Китая.



Вечерняя программа продолжилась гала-концертом «Гэты дзіўны спеў з глыбінь народных» с участием творческих коллективов и участников фестиваля из Беларуси, России, Украины, Польши и Литвы.

Программа второго дня фестиваля оказалась не менее насыщенной. Ярким и волнующим моментом в этот день стал гала-концерт фольклорно-этнографических детских и молодежных коллективов «Разаўем вянкі на ўсе святкі», которые знакомили присутствующих с неисчерпаемой сокровищницей нашего края. Зрителей особенно восхитила работа ведущих – юных мотолян, говоривших на своем родном полесском языке.



«Мотальскія прысмакі» давно уже стали одной из визитных карточек Ивановского района. Фестиваль способствует привлечению туристов из разных стран, делает узнаваемой Ивановщину, как в Беларуси, так и за рубежом. Развитие туристического потенциала, в свою очередь, помогает продвижению своих товарных брендов. Мотоляне и сегодня бережно хранят старинные обычаи, рецепты, культуру, самобытность. Убедились в этом все, кто принял участие в «Мотальскіх прысмаках». Каждый из присутствующих на празднике смог увезти с собой не только гастрономические деликатесы, но и приятные впечатления и воспоминания, которые будут греть душу еще не один месяц.

*Марина Малкова,*
*ведущий методист ООКЦ*





# Выйшлі на грудочак – забялі таночак!

## Абласное свята фальклорнага мастацтва «Таночак»







*21 мая* 2017 года этнаграфічны падворак «Каля плэса» музея народнай творчасці «Бездзежскі фартушок» напоўніўся аўтэнтычнымі спевамі і танцамі, дзе адбываліся абласное свята фальклорнага мастацтва «Таночак» і абласны конкурс дзіцячых фальклорных калектываў. Свята, арганізаванае галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Брэсцкага аблвыканкама, Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтрам і Драгічынскім райвыканкамам, сабрала каля двухсот хлопчыкаў і дзяўчынак нашай вобласці (а гэта адзінаццаць дзіцячых фальклорных калектываў), якія шчыра і адкрыта прадэманстравалі журы і публіцы танцы, спевы, вусную народную творчасць і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, якому навучыліся ад носьбітаў фальклору, ад сваіх бабуль і дзядуль. Неверагодна, але ў эпоху камп'ютарных тэхналогій дзеці танцавалі ажно больш за дваццаць аўтэнтычных танцаў.





Гасцямі свята сталі аўтэнтычныя гурты з Ганцавіцкага, Івацэвіцкага, Брэсцкага, Драгічынскага раёнаў і горада Мінска. Знакаміты фальклорны гурт «Завіца» з вёскі Раздзялавічы Ганцавіцкага раёна ўразіў гледачоў не толькі ўнікальнай манерай выканання старадаўніх песень, але тым, што толькі на Ганцаўшчыне гэтае выкананне суправаджаецца падскокамі. Этнаграфічныя калектывы Івацэвіцкага раёна фальклорны калектыў «Гарталянка» Гортальскага СДК і фальклорны калектыў «Каліна» Сомінскага СК прывезлі на свята песні і абрады свайго рэгіёна. Унікальны вясельны абрад «Сыры» прадэманстраваў клуб аматараў фальклору «Жывая вада» Ляплёўскага СК Брэсцкага раёна. Вялікую канцэртную праграмму прадставілі фальклорныя калектывы Драгічыншчыны.



Сапраўднай жа іскрынкай свята стаў паказ аўтэнтычных і адноўленых строяў «Модны стыль – народны тэкстыль», падчас якога госці свята і ўдзельнікі мелі ўнікальную магчымасць на адным падворку пабачыць каля двухсот народных строяў. Нельга было адарваць позірк ад неверагодных давыд-гарадоцкіх «галовачак», знакамітых дывінскіх і радастаўскіх свах, бездзежскіх «паў», матальскіх кажушкоў, маларыцкіх «бурак» і шмат якіх іншых непаўторных элементаў самабытных касцюмаў.



На працягу свята дзейнічала выстава-продаж вырабаў майстроў народнай творчасці і традыцыйнай кухні. Для дзяцей праводзіліся гульнёва-забаўляльныя праграмы.

*Ларыса Быцко,*
*загадчык аддзела традыцыйнай культуры АГКЦ*

# Драўляны падарунак Маларыце

## XIV абласны пленэр разьбяроў манументальнай скульптуры «Суквецце культур»




Першая палова кастрычніка для горада Маларыта выдалася зусім незвычайнай – у самым цэнтры горада, непадалёку ад раённага Дома культуры і раённага Цэнтра народнай творчасці, у невялікім скверы шчыравалі над вялізарнымі дубовымі калодамі майстры-разьбяры. Менавіта з гэтых дубовых калод нараджаўся цікавы арт-аб'ект – «Сквер сяброўства»! Справа ў тым, што горад Маларыта вось ужо чацвёрты раз гасцінна прымаў удзельнікаў абласнога тура Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур «Суквецце культур». Менавіта таму арганізатары XIV абласнога пленэру разьбяроў манументальнай скульптуры абралі Маларытчыну для правядзення гэтага культурнага форуму! Тэмай пленэру стала стварэнне вобразаў прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў свету, што жывуць на тэрыторыі Берасцейшчыны.

На працягу тыдня майстры-разьбяры працавалі над цікавымі і непаўторнымі вобразамі: беларускі, рускай, украінца, армянкі, яўрэя, паляка, цыганкі. Скульптуру беларускі стварыў майстар з Івянца Мінскай вобласці Мікола Задрэйка. Хочацца адзначыць, што вобразам для нараджэння гэтага твора стала Народны майстар Беларусі з в. Дарапеевічы Маларыцкага раёна ткачыха Сцепаніда Сцепанюк.

Каларытны вобраз украінца з шыкоўнымі вусамі і чубам на галаве паўстаў дзякуючы працавітым рукам і творчаму натхненню Народнага майстра Беларусі Уладзіміра Чыквіна з г. Кобрына.

Вобраз армянкі, якая адкрывае свой твар насустрач новаму часу, стварыў Народны майстар Беларусі з в. Цераблічы Столінскага раёна Іван Супрунчык. Ганарысты паляк «нарадзіўся» з-пад рук маладога разьбяра з г. Драгічына Валерыя Манцэвіча.

Майстар з г. Гродна Мікалай Скляр стварыў «вольны як вецер» вобраз цыганкі.







Рускую прыгажуню з доўгай, да самай зямлі, касой выканаў майстар з г. Баранавічы Сяргей Козел.

Разьбяр з в. Вістычы Брэсцкага раёна Аляксандр Лазерка стварыў вобраз яўрэя, які прызывае ўсе народы жыць у згодзе і ўзаемаразуменні.

Скульптуры, выкананыя разьбярамі, аб'яднаны адной тэмай – тэмай сяброўства, і дзякуючы ім жыхары ўтульнага горада Маларыта атрымалі ў падарунак сквер пад назвай «Суквецце культур».

*Ларыса Быцко,*
*загадчык аддзела традыцыйнай культуры АГКЦ*

# «Попляшэм, повэрнэмся, да і пісню поспываем нэ полэнымся!»

## Этнаканцэрт з цыкла «Рух зямлі»





Сёння, у часы хуткага прагрэсу і агульнай камп'ютарызацыі, калі сталі знікаць вёскі, многія беларусы ўжо не памятаюць пра быт сваіх продкаў. Звярнуцца да сваіх каранёў, узгадаць пра тое, як жылі нашыя продкі, пазнаёміцца з старадаўнімі абрадамі і звычаямі дапамагае этнапраект «Рух зямлі», які ладзіцца ў ДзУК «Брэсцкі абласны грамадска-культурны цэнтр».

На гэты раз 22 лістапада ў горад Брэст на этнаканцэрт «Попляшэм, повэрнэмся, да і пісню поспываем нэ полэнымся» арганізатары запрасілі фальклорныя калектывы з Піншчыны. Тэматыкай мерапрыемства была абрана ўнікальная каравайная традыцыя і сапраўдныя палескія вячоркі.

Восень – гэта пара цяжкай працы для селяніна, час збору ўраджаю з палёў, нарыхтоўкі яго на зіму і, канешне, час ладзіць вяселлі і весяліцца, бо наперадзе Піліпаўскі пост.

Гледачоў адразу сустракаў імправізаваны інтэр'ер сялянскай хаты: прыгожыя ручнікі, на падлозе ходнікі, сялянскія лавы і традыцыйныя стравы, пах ад якіх проста заварожваў.

Распачалася ўся дзея з замесу і ўбірання каравая, бо ні адно вяселле не абыходзіцца без каравая – сімвала будучага сямейнага шчасця і дабрабыту. Народны фальклорна-этнаграфічны калектыў «Дударыхі» з вёскі Валічша прадэманстраваў, як у гэтай мясцовасці рыхтуюць каравай.

Адметна, што ў дадзенай мясцовасці каравай упрыгожвалі толькі барвінкам і штучнымі кветкамі, абвязвалі ручніком і вязалі вузлы: колькі вузлоў, столькі дзетак будзе ў маладых. На працягу ўсяго часу спяваліся абрадавыя песні і шлі прыгаворы, каб доля маладых была шчаслівая, бо нараджалася новая сям'я.



У гэтую пару года сонца рана заходзіць за небасхіл і надыходзяць доўгія вечары. Менавіта ў такія вечары, звычайна, вяскоўцы збіраліся на вячоркі. У атмасферы сапраўдных палескіх вячорах апынуліся наведвальнікі этнаканцэрта з цыкла «Рух зямлі». На вячоркі да калектыву «Дударыхі» завітаў народны фальклорна-этнаграфічны калектыў «Чабатухі» Сташанскага сельскага Дома фальклору і фальклорны гурт «Церабяначкі» з вёскі Церабень – усё было па-сапраўднаму, як калісьці…



Кожны прыйшоў на вячоркі са сваім заняткам: пралі, вышывалі, вязалі. Можна было пачуць старадаўнія песні, даведацца пра апошнія навіны, якія адбыліся наўкол, пагутарыць. І, канешне, якія вячоркі без музыкаў і танцаў.

Народны фальклорны гурт «Грымата» Дабраслаўскага сельскага Дома культуры, які завітаў на вячоркі, хутка змяніў настрой. Усе кінуліся ў танцы. Кракавяк, падэспань, полька, але сапраўдным адкрыццём для гледачоў стаў танец «Хіната» прывезены з вёскі Валішча.

Завяршылася мерапрыемства частаваннем традыцыйных страў.

Зараджаныя станоўчымі эмоцыямі гледачы спрабавалі стравы і яшчэ доўга не разыходзіліся, працягвалі весяліцца і гутарыць з артыстамі з Піншчыны.



Наведвальнікі атрымалі вялікае задавальненне ад свята і асалоду ад каларытнай мясцовай мовы. Пасля ўсяго ўбачанага верыш, што колішнія традыцыі не адыходзяць у нябыт, а набываюць новае жыццё.

*Кацярына Ігнацюк,*
*вядучы метадыст АГКЦ*

# «Берасцейскі падарунак»

## Абласны конкурс сувеніраў





Штогод мільёны людзей узбагачаюць і пашыраюць свой кругагляд праз культурны турызм. Брэсцкая вобласць мае вельмі высокі турыстычны патэнцыял. Дзякуючы сваёй чыстай прыродзе і экалогіі, распрацоўцы новых маршрутаў для вандроўнікаў па гісторыка-культурных месцах, цікавай традыцыйнай культуры ўсё большая колькасць турыстаў аддае перавагу нашай краіне. Кожны наведвальнік марыць адвезці з сабой, на ўспамін аб падарожжы, часцінку культуры наведанай краіны.

Менавіта з мэтай распрацоўкі і пашырэння асартыменту прадстаўнічай сувенірнай прадукцыі, якая б яскрава адлюстроўвала традыцыйную культуру рэгіёна, павышэння прэстыжу і папулярызацыі турыстычных маршрутаў Брэстчыны праз распаўсюджванне сувенірнай прадукцыі ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі, дэманстрацыі сучасных форм і відаў народнага мастацтва ДзУК «Брэсцкі абласны грамадска-культурны цэнтр» абвясціў конкурс сувеніраў «Берасцейскі падарунак». Каб прыцягнуць увагу і не абмяжоўваць творчасць майстроў, а як мага шырэй асвятліць розную тэматыку твораў, арганізатары конкурсу прадугледзелі ажно шэсць намінацый. Намінацыя «Цытадэль славы і гонару» была прысвечана перамозе ў Вялікай Айчыннай вайне; «Родная старонка» – прысвечана лепшаму адлюстраванню прыгажосці навакольнага асяроддзя; «Зямля берасцейская – наша натхненне» – прысвечана агульным традыцыям нацыянальнай культуры; «Мая радзіма» – найлепшаму сувеніру з нацыянальнай сімволікай; «Старадаўняе рамяство» – сувеніру, выкананаму па старадаўніх тэхналогіях; «Край запаведны» – аб'ектам гісторыка-культурнай спадчыны. Паказальна, што адзін майстар мог прадставіць свае работы ў некалькіх намінацыях.

Конкурс праводзіўся ў тры этапы. У праглядах прынялі ўдзел звыш 500 майстроў народнай творчасці. Журы вылучыла 40 лепшых майстроў народнай творчасці –

удзельнікаў заключнага этапу, які адбыўся 3 ліпеня 2017 г. у Брэсцкім гарадскім парку культуры і адпачынку.

Майстры народнай творчасці з 15 раёнаў вобласці і г. Брэста дэманстравалі жыхарам і гасцям горада свае вырабы. Былі прадстаўлены практычна ўсе віды традыцыйных рамёстваў: разьба, ганчарная справа, ткацтва, вышыванне, роспіс, бандарства, пляценне з прыродных матэрыялаў і многае іншае. Падчас выставы можна было набыць вырабы народных майстроў і на свае вочы ўбачыць жывыя творчыя працэсы стварэння. Неверагоднае спалучэнне традыцыі і сучаснасці ў творах майстроў заварожвала. Яшчэ раз можна было пераканацца, што творчая фантазія майстроў не мае межаў.

Журы было вельмі складана вылучыць пераможцаў, кожны сувенір быў непаўторны, меў завершаны вобраз. На выставе рамеснікі паказвалі багацце і разнастайнасць беларускага народнага мастацтва.

Пасля абмеркавання кампетэнтнае журы абвясціла дваццаць чатыры дыпламанта конкурсу, якія былі адзначаны дыпломамі I, II, III ступені, спецыяльнымі дыпломамі і прызамі аргкамітэта. Сувеніры пераможцаў конкурсу размешчаны як рэкламная прадукцыя ў сувенірнай краме «Скарбніца» якая дзейнічае пры ДзУК «Брэсцкі абласны грамадска-культурны цэнтр». Наведвальнікі крамы змогуць не толькі атрымаць асалоду ад твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, але і заказаць, пры жаданні, упадабаны сувенір.

Такія мерапрыемствы гэта выдатная магчымасць прадэманстраваць народнае рамяство, зацікавіць моладзь і турыстаў беларускай культурай.

Яшчэ раз віншуем усіх пераможцаў конкурсу «Берасцейскі падарунак»!





*Кацярына Ігнацюк,*
*метадыст аддзела традыцыйнай культуры АГКЦ*



# «Апошнія бортнікі Еўропы, якіх я сустрэў»

**Фотавыстава Кшыштафа Хейке**





21 красавіка 2017 года ў выставачнай зале ДзУК «Брэсцкі абласны грамадска-культурны цэнтр» адбылося адкрыццё фотавыставы «Апошнія бортнікі Еўропы, якіх я сустрэў», у якой Кшыштаф Хэйке, аўтар гэтай выставы, ажыўляе бортніцтва – старажытны промысел, які бытаваў як сярод беларусаў, так і сярод заходніх і паўднёвых славян-суседзяў.

На адкрыцці выставы Хэйке распавёў аб гісторыі бортніцтва, аб прычынах яго знікнення, аб тым, як амаль 15 год назад адкрыў для сябе гэты старажытны від заняткаў з паўсядзённага жыцця простага чалавека і як гэта паўплывала на яго далейшую дзейнасць. Вялікафарматныя фотаздымкі апошніх, прылады працы бортніка – свярдзёлак, скобля, цясла, лопацень і інш., нават сапраўдная старая борць, якую напярэдадні выставы знайшлі ў лесе і дапамаглі транспартаваць для прагляду, усё разам склала даволі цікавую экспазіцыйную калекцыю.





Кшыштаф Хэйке – фатограф, прафесар кінамастацтваў, выкладчык на факультэце рэжысуры і аператарскага мастацтва вышэйшай дзяржаўнай школы кінематографа ў г. Лодзь, вандроўнік і альпініст, так захапіўся тэмай бортніцтва, што прысвяціў ёй апошнія чатырнаццаць год свайго жыцця. Выстава стала вынікам шматгадовых назіранняў і даследаванняў з выкарыстаннем сучасных тэхналогій, бясшкодных для насякомых (аб'ектывы эндаскапічных і інфрачырвоных камер), вывучэннем старых кніг па бортніцтву пачатку XVII стагоддзя, знаёмствам з многімі старымі бортнікамі Беларусі, Польшчы, Літвы і Украіны, якія дажылі ў нішы ўласнай прафесіі, дзякуючы сваёй ізаляцыі ад цывілізацыі.

Зараз гэты промысел паціху знікае, а ў палескіх лясах і па сённяшні час можна назіраць падхмарныя бочкі-калоды, у якіх жывуць і раяцца ўжо без чалавечага нагляду і клопату працавітыя пчолы.

У 2016 годзе Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча ўнесла бортніцтва ў спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Зараз Кшыштаф Хэйке сумесна з Бортніцкім братэрствам (Польшча) і беларускімі бортнікамі скіроўвае намаганні на ўнясенне бортніцтва ў Спіс шэдэўраў вуснай і нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва ЮНЭСКА.

*Марына Сёмышава,*
*вядучы метадыст*
*аддзела традыцыйнай культуры АГКЦ*

# «Беларусь на далоні»

## Выстаўка мастацкай фатаграфіі

16 чэрвеня ў выставачнай зале ДзУК «Брэсцкі абласны грамадска-культурны цэнтр» прайшло адкрыццё фотавыставы «Беларусь на далоні». Звыш дваццаці аўтараў прадставілі на гэтай імпрэзе больш за дзевяноста фотатвораў, аб'яднаных адной тэмай – спробай паказаць праз оптыку аб'ектыва прыгажосць Беларус і паказаць гледачу тое, як фотавідарыс можа зрабіць нешта высокамастацкае.

Фотавыстава «Беларусь на далоні» – мастацкі праект, які дэманструе аўтарскі погляд фатографа на тэму яскравых момантаў, якія захавалі імгненні часу, таму што фатограф-мастак здолеў зафіксаваць вырашальны момант паўсядзённага жыцця. мімалётныя і незваротныя

Фатаграфія – адзін з асноўных кампанентаў медыяпрасторы і самая распаўсюджаная крыніца візуальнай інфармацыі. Развіццё тэхналогій і попыт на фотавідарысы робяць прафесію фотамастака, з аднаго боку, усё больш папулярнай, з іншага – дадаюць ёй пэўныя асаблівасці. Хуткасць перадавання інфармацыі, яе даступнасць ператвараюць сённяшні свет у адзін дасканала візуалізаваны ландшафт, у якім чалавек з фотакамерай займае далёка не апошняе месца. Тое, што мы бачым напрыканцы працы фотамастака, шмат у чым залежыць ад яго прафесіяналізму, а таксама творчага падыходу і асаблівага погляду на рэчы. Мастацкі фотаздымак тым і адрозніваецца ад рэпартажнага (які холадна і дакументальна фіксуе падзеі, людзей, з'явы прыроды і г. д.), што дазваляе раскрыць патаемнае і асаблівае ў звыклым.

Кажуць «таленавіты чалавек – таленавіты ва ўсім». Наколькі таленавітымі акажуцца тыя, хто заявіў аб сабе ў мастацкім праекце «Беларусь на далоні», пакажа час, але, прымерыўшы адзін раз ролю творцы, хочацца яшчэ і яшчэ спрабаваць і, галоўнае, дэманстраваць свае дасягненні. Таму тым, хто не здолеў прыняць удзел у выставе, можна параіць адважна браць у рукі фотаапарат і ісці на пошук сваіх асаблівых момантаў, і, можа, менавіта яны стануць «залатымі» хвілінамі часу.

*Марына Сёмышава,*
*вядучы метадыст аддзела традыцыйнай культуры АГКЦ*

# «Панна Doll'я»

## Міжнародная выстаўка аўтарскай лялькі




6 ліпеня 2017 года ў выставачнай зале ДзУК «Брэсцкі АГКЦ» адбылося адкрыццё Міжнароднай выстаўкі аўтарскай лялькі «Панна Doll'я».

Праект «Панна Doll'я» – гэта выстава, выкананая з неверагодным майстэрствам і любоўю, дзе кожны можа пазнаёміцца з гісторыяй лялькі – ад тэкстыльнай да сучаснай аўтарскай, вельмі рознай, неверагоднай, часам нечаканай, але заўсёды камусьці вельмі блізкай.

Лепшыя майстры Беларусі, СНД і краін блізкага замежжа прадставілі свае працы ў розных тэхніках: тэкстыльныя лялькі і мядзведзі, статычныя экспазіцыі і партрэтныя працы. Наколькі незвычайнымі, рознымі яны бываюць! Ад паддашкавых (з тэкстылю) да парцалянавых рарытэтаў, фантастычныя творы мастацтва майстроў-лялечнікаў нікога не пакінуць абыякавым! Лялькам падуладна тое, перад чым чалавек нямоглы.

На выставе «Панна Doll'я» было прадстаўлена больш за 150 экспанатаў, якія выкананы ў адзіным асобніку.

Унікальныя маскі Ірыны Бажэчанка (Украіна) выкананы ў змешанай тэхніцы (пацеркі, халодны парцалян, скульптура), партрэтныя лялькі Нэлі Паповай (Расія) заўсёды прыцягваюць увагу гледачоў – іх складана не пазнаць, анёлы Таццяны Чугунавай нясуць дабро і шчасце ў маленькіх валізках.

Галоўная лялька выставы – лялька Панна Doll'я, аўтар Таццяна Палякова (Беларусь), мае арыгінальную назву «Жыццё атрымалася».

«Мы не даём адзін аднаму спыняцца. За 15 гадоў развілі новае, раней нікому не вядомае сучаснае мастацтва аўтарскай лялькі – гэта сінтэз жывапісу, скульптуры і дызайну касцюма. Нашы лялькі аказаліся неверагодна запатрабаванымі, бо ўсе антыкварныя прадметы мастацтва ўжо даўно раскуплены», – распавядае арганізатар і аўтар праекта Надзея Цыганоўская.

Асобнай экспазіцыяй пададзены мядзведзі «Тэдзі» беларускіх і расійскіх майстроў, зайцы і мішкі Кавалёвай Наталлі (Беларусь) карыстаюцца велізарнай папулярнасцю ў калекцыянераў. Працы ў такой тэхніцы шыюць рукамі, набіваюць пілавіннем і гранулятам, часта мех састарваецца. Асобная экспазіцыя выставы – малюнкі Ганны Сілівончык і Васіля Пешкуна.

Калі ласка, не завіце гэтыя працы цацкамі!


*Марына Сёмышава,*
*вядучы метадыст аддзела традыцыйнай культуры АГКЦ*

## Осень

Глотая слезы, осень бродит,
Ей жалко пышный свой наряд,
Красу былую растеряла.
И вальсом кружит листопад.

Куда деваться? Лечь под снегом?
Захорониться до весны.
И не искать спасенье бегом,
А видеть сны, а видеть сны,

А ветер горы золотые
Из палых листьев собирал
И первым снежным покрывалом
Поля пустые укрывал.

Лишь журавли, что запоздали,
Нам песнь прощальную даря,
С собою осень уносили,
На Юг – не зря, не зря, не зря…

*Владимир Яковлевич Гуща,*
*художественный руководитель Велемичского ЦСДК*
*ГУК «Столинская районная клубная система»*

## «Смэрть»

До діда з бабою у хату раз смэрть постукалась була,
Одевшыся ў білы латы з косою ржавою прышла.
А дід да  баба – люды мілы, раз хтось постукав – то й впустылы.
Нэ попытавшыся зайшла, костлявы рукі потырае,
Очыма хату обвыла,  до діда гэтак помавляе:
«Ну шо, дідусь, прышла пора прыбраты косты із двора?»
«Ну шчо, по твоему хай будэ», – баба розмову почала.
«Но ты впэрід, як усі люды, сядь, повэчэрай до стола.
Да побалакай трохэ з намы, стары ж бо мы, жывэмо самы».
Прысіла смэрть, а баба шпарко на стыл ковбаскі подала,
І хліба, і гурка, і шкварку, з коморы сала прынысла.
А дід хутэнько з лавы встав і бутэль з водкію достав.
Смэрть потяглась була за шкварку, а дід хутэнько аж за край
Налыв і дав юй в рукі чарку: «Впэрід горілкі покуштай!»
Смэрть выпыла, гурочка достае, а дід і знов юй подае.
Смэрть подпыла, до сала руку протягае, чіто бэрэтся за ковбаску,
А дід ішчэ ей подлывае, да просыть: «Выпы шэ, будь ласка!»
Смэрть подпыла, спываты почынае, а дід ішэ юй подлывае.
Нэ буду більш, бувайтэ,  дід. Пойду додом, я вжэ готова.
А дід і кажэ: «На послід шэ трэба чарка оглоблева».
Смэрть ужэ круть, смэрть ужэ вэрть і напылася смэрть у смэрть.
Туманом очі вжэ заслало, і гнуцця, не трымають ногі,
«Усім прывет», – шэ смэрть сказала, пошла і впала за порогом.
Лыжыть, у горлі шось подпэрло, дыхнула раз, другі – і вмэрла.
Як хоч од смэрті откупытысь – горілкі смэрті дай напытысь.
Бо тож горілка річ такая – шо і над смэртю владу мае.

# «Корытцэ для діда»

Свікра молода нэвістка
Нэвзлюбыла страх старого.
«За одным столом і сісты,
Кажэ, більшэ з ім нэ могу.

Він нэакуратны вэльмы,
Йжа з рота выпадае.
У мэнэ аж вэрнэ душу,
Як він до стола сядае.

Трэбо высылыть небогу
У клуню із хаты,
Бо дурны манеры могуть
Діты пэрэйняты.

Да, і в хаты тысновато,
Жынка мужа докоряе.
Діткам трэбо погуляты,
А комнату він займае.

Ты корытцэ заміст мыскы
Зробы», – кажэ строго. –
«Шоб було ў чому йсты
Даты для сторого.

Даю часу до суботы
Все прыготуваты,
А там прыйдэмо з роботы –
І кіш  діда з хаты».

Клуню сам як слід прыбрав,
Будто пэрэд святом.
Доску нову з горы зняв
І став майстроваты.

Все гіблюе, чысто гладко
Допасоввае дабрачэ,
Шоб було корыццэ діда
Нэ похожэ на свынячэ.

А навкола кружать дітэ:
«Шо ты робыш, батько».
Навыдь жынка подывытысь
На то выйшла з хаты.

«Брызь отсюля, нэрозумны,
Рано вам шэ знаты».
Жынка ж кажэ: «Все равно
Трэбо показаты!».

«Нэ мышайтэ майстроваты,
Бо вэтэ шчэ діты.
Я роблю, як хочтэ знаты,
Корытцэ для діда.

Шоб було із чого кашку
Чы борщчок хлыбаты,
А тэпэр бэжытэ, діткэ,
На гулыцю граты».

Раптом нуда накатылась,
А сум такы взявся,
Ажно слезы накатылысь
Горячы ў майстра.

«Шо ж роблю – і  сам нэ знаю
Загубывся розум».
Його діткы ўтішають,
Вытырають слезы.

«Нэ плач, нэ журыся, любы.
Як ты старым станэш,
І тобі корытцы з дуба
Зробым і для мамы».

В Заповете старым, Божым
Правда е вылíка.
Ушануй батька, шануй маму,
Нэ робы ім лыха.

Бо сам мерыю якою
Комусь будэш мірать,
І тобі, повір, такую
У свій час намірать.

*Мясцовы паэт-баечнік Васіль Несцярук.*
*НАА «Званы Палесся» Антопальскі ГпДК,*
*Драгічынскі раён*
*(Захавана арфаграфія мясцовага дыялекту)*

# Творческий путь в 50 лет

## Обобщение опыта работы народного театра Телеханского ЦКиД ГУК «Ивацевичская районная клубная сеть»





Таинственный полумрак кулис, запах грима, ослепляющий свет рампы и сладкий миг волнения перед выходом на сцену. И это все – театр.

Хочется познакомить вас с народным театром Телеханского Центра культуры и досуга, который является одним из старейших театров нашей области, ведь в этом году он отмечает свой полувековой юбилей. А как все начиналось?

Творческие истоки театра были заложены в 1957 году учителем Телеханской средней школы, энтузиастом, оптимистом и большим любителем театра – Евгением Константиновичем Гладуном. Евгений Константинович организовал драматический кружок, участниками которого были его друзья и коллеги, в дальнейшем кружок стал крепким фундаментом в становлении народного коллектива.

Сегодня интерес представляют программки спектаклей тех лет, которые выполнены на тонкой бумаге, почти невесомой. Они разного формата и цвета – розовые, серые, голубые… Из программок мы узнаем, что в репертуаре коллектива были спектакли «Прымакі» Я. Купалы, «Перад вызваленнем» П. Пестрака, «Не верце цішыні», «Выбух» А. Алтухова и






Н. Гарулева, «Стряпуха» А. Сафронова и многие другие. В сентябре 1967 года после премьеры спектакля «Папарацькветка» И. Козела (в спектакле было занято 40 человек) было объявлено о присвоении театру звания «народный». Режиссером в то время была Улитина Лидия Даниловна, и рядом с ней были актеры-любители, благодаря которым начала писаться история театра, – дружный, творческий коллектив, влюбленный в театр.



В 1984 году с приходом в театр Кузнецовой Дануты Иосифовны он получил новый творческий виток. Четверть века она являлась бессменным руководителем Телеханского народного театра. Данута Иосифовна – это человек творческий, талантливый, инициативный. Много лет она шла в ногу со временем и в полной гармонии с театральным искусством, была не только хорошим педагогом, режиссером, но и замечательной актрисой. На областных фестивалях «Театральное Полесье» неоднократно награждалась в номинации «Лучшая женская роль».





В репертуаре театра доминирующими являлись произведения белорусских авторов: «Паўлінка», «Прымакі» Я. Купалы, «Парог» А. Дударева, «Над хвалямі серабранкі» И. Козела, «Мікітаў лапаць» М. Чарота, «Адкуль грэх» А. Петрашкевича, «Не верце цішыні», «Змоўклі птушкі» И. Шамякина, а также ставились спектакли по пьесам русских классиков и современных драматургов: «Предложение», «Юбилей», «Медведь» А. Чехова, «Русские люди» К. Симонова, «Бомбовозы» З. Дудюк, «Мудромер» Н. Мотуковского. Телеханский театр имеет большую историю и не раз становился победителем различных фестивалей и конкурсов, в том числе Всесоюз-



ных. За активное участие в пропаганде советской драматургии в 1987 году народный театр был награжден дипломом Союза писателей.

Самая плодотворная творческая работа театра была с 2005 по 2007 годы. Коллектив много гастролировал, показывал до 25 спектаклей и инсценировок в год, а в 2006 году было поставлено 7 спектаклей. Коллектив театра, а это 40 человек, выезжал в Киев, Вильнюс, Каунас, где посещал спектакли ведущих театров, знакомился с профессиональными артистами и режиссерами, налаживал творческие контакты.

Инициатива Дануты Иосифовны была продолжена новым молодым режиссером Горбачом Александром Николаевичем.



Коллектив народного театра поддержал его, и с большим вдохновением и удовольствием началась работа над новым спектаклем «Бяда ад пяшчотнага сэрца» В. Сологуба. В репертуаре появились кукольные спектакли «Невиданный младенец» и «Вялічка – чырвонае яечка» по мотивам библейских сюжетов и многие другие постановки. Эксперимент с кукольными спектаклями очень понравился актерам театра и зрителям.

За 50 лет театр накопил просто колоссальный литературный материал творческих работ, воплощенных на сцене, – за годы существования в театре поставлено около двухсот спектаклей.





Для многих артистов театра он стал вторым домом, впрочем, как и для молодого режиссера, руководителя театра Виктории Наливко, выпускницы Пинского государственного колледжа искусств, возглавившей народный театр с августа 2016 года. Виктория Владимировна активно включилась в творческую жизнь коллектива.



«50 лет – это не “уже”, а только “ещё”», – говорят артисты. А в подтверждение тому на сегодняшний день в планах народного театра постановка новых спектаклей.

Станиславский называл театр «учителем общества», так было всегда, так есть и так будет. Только в театральном зале могут объединиться вместе очень разные люди, которых в обычной жизни ничего не связывает.

Сотни коротких нитей на сцене – словно временные отрезки. А переплетясь между собой, они олицетворяют творческий путь в 50 лет, а это целая театральная эпоха, за которую меняется поколение актёров и режиссеров. Приходят молодые, которым надо передать ценности и традиции театра, воспитать и направить их. Получилось ли это у Телеханского народного театра? Думаем, получилось!

*Галина Гуринчук,*
*ведущий методист по театральному искусству ООКЦ*







# ГУК «Брестский областной общественно-культурный центр» поздравляет юбиляров

## Коллективы любительского творчества клубных учреждений

### С 50-летием:

*Народный театр* Телеханского ЦКиД Ивацевичского района

### 45-летием:

*Народный ансамбль песни «Подгорняночка»* Подгорновского СК Барановичского района

### 40-летием:

*Народный духовой оркестр* ГДК г. Ивацевичи

*Народный академический хор учителей* ГДК г. Ляховичи

### 30-летием:

*Народный ансамбль народной песни «Черничанка»* РДК аг. Черни Брестского района

*Народный инструментальный ансамбль «Настроение»* РДК аг. Черни Брестского района

*Образцовую цирковую студию «Иллюзия»* Чернавчицкого СДК Брестского района

*Образцовый ансамбль танца «Карагод»* ГДК г. Столина.

### 35-летием:

*Народный хор* Дятловичского ЦСДК Лунинецкого района

*Народный фольклорно-этнографический коллектив «Дударыхі»* Валищенского СДК Пинского района

*Народный оркестр народных инструментов* Пружанского городского Дворца культуры

### 25-летием:

*Народное любительское объединение «Гарынскія папрадухі»* Филиала № 2 Речицкого ГДК Столинского района

*Народный вокально-хореографический ансамбль «Палозанька»* ГДК г. Барановичи

*Народный хор ветеранов войны и труда «Красная гвоздика»* Пружанского городского Дворца культуры

*Народный хор ветеранов войны и труда* ГДК г. Лунинца

*Образцовый ансамбль эстрадной песни «Пунсовыя агенчыкі»* Гончаровского СДК Ляховичского района

*Образцовый поэтический театр «Ровесник»* Туховичского СДК Ляховичского района

*Народный ансамбль народной песни «Винец»* Филиала № 12 Ревятичского СДК Березовского района

*Народный фольклорно-этнографический ансамбль «Жураўка»* Филиала № 16 Споровского ЦКиД Березовского района

*Народный женский клуб «Предислава»* ЦКиНТ г. Иваново

*Народный фольклорно-этнографический ансамбль «Журавка»* СДК аг. Псыщево Ивановского района

*Народный фольклорно-этнографический ансамбль «Колонянка»* Омельнянского СДК Ивацевичского района

*Народное любительское объединение «Спадчына»* Домановского СДК Ивацевичского района

*Народное любительское объединение «Жывіца»* Вульковского-1 ЦКНТ Лунинецкого района

### 20-летием:

*ГУК «Ганцевичский районный дом ремёсел»*

*Народный хор работников культуры «Жывица»* г. Дрогичина

*Народный ансамбль народной музыки и песни «Сваякі»* Бездежского СДК Дрогичинского района

*Образцовый танцевальный коллектив «Маскарад»* ГДК г. Дрогичина

*Народный хор «Скарбница»* ГДК г. Жабинки

*Народный фольклорно-этнографический ансамбль «Панёвы»* СДК аг. Ополь Ивановского района

*Народный фортепианный квинтет «Аллегро»* ГДК г. Ивацевичи

*Народную эстрадную студию «Версия»* Дмитровичского СДК Каменецкого района

*Народный фольклорно-этнографический коллектив «Надзея»* Кожан-Городокского СДК Лунинецкого района

*Образцовую студию декоративно-прикладного искусства «Вясёлка»* Святицкого СДК Ляховичского района

*Народный хор ветеранов* ГДК г. Малориты

*Народный клуб «Іван ды Мар'я»* Центра традиционной культуры и быта д. Мерчицы Пинского района

***Образцовую эстрадную студию «Мелодия»*** Пружанского городского Дворца культуры

## *15-летием:*

***Образцовый коллектив эстрадно-спортивного танца «Дарлинг»*** ГУК «ПГЦКиТ» г. Пинска

***Народный ансамбль песни «Маладосць»*** Мирновского СДК Барановичского района

***Образцовую студию «Мара»*** ГУК «Детско-юношеский спортивно-эстетический центр» г. Берёзы

***Народную эстрадную студию «Провинция»*** ГДК г. Ганцевичи

***Народный хор ветеранов*** ГДК г. Ивацевичи

Народный женский ансамбль «Сяброўкі» ГДК г. Ивацевичи

***Народный фольклорно-этнографический коллектив «Дабраславачка»*** Доброславского СДК Пинского района

***Народный фольклорно-инструментальный коллектив «Лагішынскія музыкі»*** Логишинского МЦК Пинского района

***Народный ансамбль народной песни «Маладзіцы»*** Парохонского СЦКД Пинского района

***Народный вокальный ансамбль «Ліцвіны»*** Зеленевичского СДК Пружанского района

***Народную фольклорную группу «Бабье лето»*** Оранчицкого СДФ Пружанского района

***Народный театр танца «Ойра»*** Пружанского городского Дворца культуры

***Народный духовой оркестр*** Пружанского городского Дворца культуры

***Образцовый ансамбль эстрадного танца «Рубикон»*** Пружанского городского Дворца культуры

## *10-летием:*

***Народный ансамбль песни и музыки «Ясніца»*** Стриговского ЦКиД Кобринского района

***Заслуженный любительский коллектив детско-юношеской студии изобразительного искусства «Аполлон»*** ГДК г. Ляховичи







# *Творческих работников с*

## *75-летием:*

***Супрунчика Ивана Филипповича***, народного мастера Республики Беларусь, Столинский район

## *65-летием:*

***Мозоля Фёдора Алексеевича***, руководителя народного ансамбля музыки и песни Остромечевского СДК «Лявоны» Брестского района

## *60-летием:*

***Магеррамову Ирину Павловну***, режиссера ГУ «Брестский городской Центр культуры»

***Кулич Нину Петровну***, директора ЦК и НТ г. Иваново

***Кузьминчук Надежду Васильевну***, руководителя народного ансамбля Ореховского ДК Кобринского района

***Барейкину Лидию Павловну***, руководителя образцового поэтического театра «Ровесник» Туховичского СДК Ляховичского района

## *55-летием:*

***Нероду Олега Евгеньевича***, руководителя образцового хора мальчиков «Пеўнікі», руководителя народного хора ветеранов им. Н.И. Шощица ГУ «Брестский городской Центр культуры»;

***Михневич Галину Ивановну***, ведущего методиста методического центра ГУК «Березовская районная клубная система»

## *50-летием:*

***Волкову Елену Петровну***, руководителя народного ансамбля танца «Рэха» ГДК г. Столина

***Арбатскую Лилию Романовну***, руководителя народного вокально-хореографического ансамбля «Полозонька» г. Барановичи

***Логвиновича Виктора Станиславовича***, руководителя народного ансамбля народной музыки «Славяне» ГУ «Брестский городской Центр культуры»

***Куровского Леонида Степановича***, начальника отдела идеологической работы, культуры и по делам молодёжи Дрогичинского района

***Стельмашук Елену Николаевну***, руководителя народного ансамбля «Заряночка» ГДК г. Дрогичина

***Остапович Марию Михайловну***, директора музея народного творчества «Бездежский фартушок» Дрогичинскогорайона

***Дулевич Ирину Павловну***, директора ГУК «Жабинковская районная централизованная клубная система»

***Молош Людмилу Михайловну***, методиста ГУК «Ивацевичская районная клубная сеть»

***Кивачук Лидию Николаевну***, директора РМЦ Малоритского района

***Махнач Галину Степановну***, методиста ГУК «Пружанская районная централизованная клубная система»

***Кривец Валентину Валентиновну***, руководителя образцового коллектива эстрадного танца «Каприз» ГДК г. Каменца








# *Культурнае жыццё Брэстчыны № 7*

Адказны за выпуск Святлана Каржук
Складальнікі Юлія Далгова, Вікторыя Аліферчык
Дызайн і вёрстка Таццяна Кішко
Карэктар Юрый Агіевіч

Падпісана ў друк 21.12.2017
Фармат 60×84 1/8. Папера мелаваная. Тыраж 60 экз. Заказ № 1.
ТАА «РИА "Вечерний Брест"». Вул. Камсамольская, 3, 224005, г. Брэст, e-mail: ria@vb.by
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў 1/414 ад 14.08.2014 г.